# СТРАТЕГИЧЕСКАЯ ТЯЖБА



№8, 2013

ИНФОРМАЦИОННО-АНАЛИТИЧЕСКИЙ БЮЛЛЕТЕНЬ
**ГОМЕЛЬСКОГО ЦЕНТРА** СТРАТЕГИЧЕСКОЙ ТЯЖБЫ

*Андрэй Аляшкевіч распаўсюджваў у 2008 годзе ўлёткі пра сустрэчу былога кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Мілінкевіча з гараджанамі. Актывіста затрымала міліцыя, а суд Савецкага раёну Гомеля аштрафаваў яго за незаконную арганізацыю масавага мерапрыемства на паўтысячы даляраў.*




# Гамяльчук дамогся адмены штрафу праз ААН

Каб адстаяць свае правы, Андрэй Аляшкевіч зьвярнуўся ў "Цэнтар стратэгічнае цяжбы". Правабаронца Леанід Судаленка дапамог мясцоваму актывісту прайсьці ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі, пачынаючы ад раённага суда й заканчваючы Вярхоўным Судом.

Аднак нават вышэйшая інстанцыя не адмяніла прысуд. Таму гамяльчук вырашыў зьвярнуцца ў Камітэт па правах чалавека пры ААН.

Расказвае праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагаў ахвяры бараніць правы ў краіне ды за ейнымі межамі:

"Паводле беларускага заканадаўства забараняецца распаўсюджваць інфармацыю пра масавыя мерапрыемствы, якія не санкцыянаваныя ўладай, ці на якія яшчэ дазвол уладаў не атрыманы. На жаль, унутры краіны абараніць правы Аляшкевіча не атрымалася. Мы зьвярнуліся са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН і 28 сакавіка бягучага году па скарзе было прынятае рашэньне, што гэтым перасьледам дзяржава парушыла права грамадзяніна Аляшкевіча на свабоду распаўсюду інфармацыі"

Камітэт па правах чалавека ААН таксама рэкамэндаваў дзяржаве выплаціць усе панесеныя Аляшкевічам матэрыяльныя выдаткі. Беларускія ўлады таксама павінны цягам 90 дзён апублікаваць гэтае рашэньне ў дзяржаўных СМІ і давесьці да Камітэта ААН інфармацыю пра выкананьне рэкамэндацыяў.

Аднак самым галоўным дасягненьнем Андрэя Аляшкевіча можна лічыць тое, што міжнародныя экспэрты рэкамэндавалі ўраду Беларусі зьмяніць нормы нацыянальнага заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і прывесьці іх у адпаведнасьць зь міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Беларусь у свой час падпісала.

# Беларускія праваабаронцы робяць стаўку на ААН

**Грамадзяне Беларусі, парушэньне правоў якіх прызнана Камітэтам ААН па правах чалавека, ствараюць новую праваабарончую арганізацыю. Пра ейныя мэты й працу – у матэрыяле карэспандэнта DW.**

Пачынаючы з 1997 году, у Камітэт ААН па правах чалавека з Беларусі паступіла 144 скаргі. Зь іх 76 былі прызнаныя абгрунтаванымі, а па выніках разгляду 36 справаў беларускія грамадзяне былі прызнаныя пацярпелымі. Гэта значыць, што ўраду Беларусі былі накіраваны рашэньні Камітэту ААН з патрабаваньнем аднавіць парушаныя правы й прывесьці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасьць зь міжнароднымі абавязальніцтвамі краіны. Аднак беларускае кіраўніцтва ўсе гэтыя рашэньні пакуль ігнаруе.

Ствараецца новае праваабарончае аб'яднаньне

Статыстыку зваротаў у Камітэт ААН па правах чалавека вядуць кіраўнік гомельскага Цэнтру стратэгічнае цяжбы Леанід Судаленка. Створаная ў 2007 годзе праваабарончая структура дапамагае беларусам пісьменна аформіць скаргі ў міжнародныя інстанцыі й вядзе судовыя спрэчкі, мэтай якіх зьяўляецца сацыяльная й заканадаўчая рэформа ў інтарэсах грамадства.
Да мінулага году, калі падобныя цэнтры былі створаны ва ўсіх абласьцях краіны, Гомель заставаўся рэгіянальным лідэрам у арганізацыі стратэгічных цяжбаў. Таму невыпадкова першая сустрэча грамадзянаў, парушэньне правоў якіх было прызнана Камітэтам ААН па правах чалавека, прайшла ў сярэдзіне лютага менавіта ў гэтым горадзе.

Дванаццаць прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў, дэлегаваныя ад розных рэгіёнаў Беларусі, абвясьцілі аб стварэньні аргкамітэту новага праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня. Ягоная мэта – прымусіць цяперашняе кіраўніцтва краіны перастаць ігнараваць абавязальніцтвы па міжнародных пагадненьнях.

**Абавязаныя, але не выконваюць**

Сёньня, кажа спадар Судаленка, беларусы могуць зьвяртацца за абаронай толькі ў жэнэўскі офіс Камітэту ААН па правах чалавека. З-за таго, што Беларусь не зьяўляецца сябрам Рады Эўропы й да гэтага часу не ратыфікавала Эўрапейскую канвэнцыю аб правах чалавека, грамадзяне краіны ня могуць скардзіцца ў Эўрапейскі суд па правах чалавека ў Стразбуры. Праблема заключаецца ў тым, што калі ў Стразбурскім судзе прадугледжаны мэханізм ўзьдзеяньня на ўлады краінаў, якія падпісалі канвэнцыю, то ў Камітэту ААН не існуе ніякіх інструмэнтаў ціску.

Урад Беларусі адмаўляецца выконваць рашэньні Камітэту ААН па правах чалавека, матывуючы гэта тым, што яны носяць рэкамэндацыйны характар не абавязковы для выкананьня. Аднак, гэта ня так, сьцьвярджае Віктар Карняенка, які ўвайшоў у склад аргкамітэту новай арганізацыі, як сустаршыня кампаніі “За справядлівыя выбары” у Менску.

Беларусь, адзначае ён, у 1992 годзе падпісала й ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і факультатыўны пратакол да яго. Менавіта гэтыя дакумэнты даюць магчымасьць беларусам зьвяртацца са скаргамі ў Камітэт ААН па правах чалавека, які, у сваю чаргу, упаўнаважаны прымаць адпаведныя рашэньні па разгледжаных справах. “І калі ўлада абвяшчае гэтыя рашэньні неабавязковымі, то значыць яна не выконвае дамоўленасьці й падманвае ААН”, – кажа Карняенка.

**Працаваць з ААН**

Важнай праваабаронцы лічаць і працу з самім Камітэтам ААН па правах чалавека, які, на іхную думку, таксама можа дамагацца рэалізацыі прынятых рашэньняў ад дзяржаў, якія ратыфікавалі пагадненьне. Да гэтага часу на сытуацыю з беларускім урадам у ААН зьвярталі недастатковa ўвагі, аднак новая праваабарончая арганізацыя, па задуме ейных ініцыятараў, закліканая працаваць з гэтай тэмай сыстэмна.

Віктар Карняенка лічыць магчымым ставіць пытаньне аб выкананьні Беларусьсю сваіх абавязальніцтваў нават перад Генэральным сакратаром ААН. Гэта не значыць, што сам генэральны сакратар будзе разьбірацца зь беларускім урадам, але для гэтых мэтаў ёсьць дастаткова вялікі апарат ААН. І зь цягам часу, калі сытуацыя не будзе паляпшацца, гэтую праблему можна будзе вынесьці на ўзровень Рады бясьпекі ААН, спадзяецца Карняенка.

Праваабаронцы зьвяртаюць увагу й на тое, што ў Менску знаходзіцца прадстаўніцтва ААН, зь якім пакуль не была наладжана цесная праца. Адным зь бліжэйшых мерапрыемстваў аргкамітэту як раз стане сустрэча грамадзянаў, прызнаных пацярпелымі, з супрацоўнікамі менскага офісу прадстаўніцтва ААН. І калі раней сярод такіх пацярпелых былі адзінкі, то сёньня іхны лік пайшоў ужо на сотні, сьцьвярджае віцебскі праваабаронца, сябра Беларускага Гэльсынскага Камітэту Павал Левінаў.

3 стр. >>>

## Беларускія праваабаронцы робяць стаўку на ААН

### Сотні пацярпелых

Напрыклад, толькі па справе "Карняенка супраць Беларусі" пад скаргай аб ліквідацыі ўладамі ў 2003 годзе няўрадавай арганізацыі "Грамадзкія ініцыятывы" падпісалася 284 чалавекі. У рашэньні Камітэту ААН па правах чалавека гаворыцца, што ўлады парушылі свае абавязальніцтвы, і загадана аднавіць дзейнасьць гэтай НДА. Пацярпелымі прызнаныя ўсе падпісанты. Але рашэньне да гэтага часу не выканана.

### Павал Левінаў

Сам Левінаў падаў у Камітэт ААН па правах чалавека дзевяць скаргаў, якія прызнаныя абгрунтаванымі, і дзейнічаў ён у інтарэсах цэлых груп грамадзянаў. Гаворка ідзе, перш за ўсё, аб парушэньні правоў на свабоду выказваньня меркаваньня, мірныя сходы й стварэньне асацыяцыяў, распаўсюд інфармацыі. "Але ёсьць і выпадкі абгрунтаваных скаргаў на несправядлівы суд і жорсткае, бесчалавечнае абыходжаньне з затрыманымі", – кажа спадар Левінаў.

Мяркуецца, што новая арганізацыя будзе мець рэспубліканскі статус. Згодна з законам, для ейнай рэгістрацыі неабходна, каб у склад заснавальнікаў ўвайшлі па 10 чалавек зь, мінімум, чатырох абласьцей Беларусі ды сталіцы рэспублікі, Менску. Гэтая колькасьць заснавальнікаў была сабраная без аніякіх цяжкасьцяў. Гэта значыць на сёньня ў працэс стварэньня НДА ўжо ўключана больш за паўсотні чалавек.

Паводле www.dw.de

## Былы мэр Гомелю зьвярнулася ў Камітэт па правах чалавека

**Былы старшыня Гомельскага гарвыканкаму Сьвятлана Гальдадзе скардзіцца ў Камітэт па правах чалавека ААН на забарону ёй сумесна з мясцовымі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным ды Леанідам Судаленкам правесьці ў абласным цэнтры 4 жніўня мінулага году пікету ў падтрымку зьняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.**

- Пікет мы мелі намер правесьці 4 жніўня таго году – у гэты дзень быў затрыманы Алесь Бяляцкі. Масавае мерапрыемства ў нас было заплянаванае з мэтаю зьвярнуць увагу грамадзкасьці на праблему палітычных зьняволеных, і ня толькі Алеся Бяляцкага, якога, як мы лічым, асудзілі незаконна, – заявіла былы мэр Гомелю Сьвятлана Гальдадзе.

Яна адзначыла, што акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага плянавалася як агульнарэспубліканская, якая праводзілась па ініцыятыве праваабаронцаў.

Заяўкі на пікеты былі пададзеныя ва ўсіх абласных цэнтрах і іншых гарадах краіны ды паўсюду мірныя сходы грамадзянаў былі забароненыя.

Раённы суд, дзе абскарджвалась забарона стаў на бок гарвыканкаму, а абласны суд зацьвердзіў рашэньне раённага. Таксама й Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэньне, не задаволіў скаргу. Такім чынам нутраныя сродкі праўнай абароны былі вычарпаныя, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю – Камітэт па правах чалавека ААН.

Сьвятлана Гальдадзе просіць Камітэт ААН устанавіць факт парушэньня ейных разам з праваабаронцамі правоў на свабоду правядзеньня мірных сходаў і свабоду выказваньня меркаваньня з боку дзяржавы й рэкамэндаваць беларускаму ўраду прывесьці закон "Аб масавых мерапрыемствах", а таксама рашэньне мясцовай улады аб парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў у адпаведнасьць з міжнароднымі абавязальніцтвамі.

Паводле gomelspring.org,
Падрыхтаваў Алесь ЛЕТА,

# Гомельские правозащитники ввязались в стратегические тяжбы

**Нескольк лет назад в Гомеле появился Центр стратегической тяжбы. Как он помогает белорусам отстаивать свои права в международных организациях, объясняет корреспондент DW.**

Гомельский Центр стратегической тяжбы был основан в 2007 году по инициативе юриста Леонида Судаленко и активиста оппозиции Василия Полякова. За эти годы в Комитет ООН по правам человека центром было направлено более 70 жалоб, ровно половина из которых зарегистрированы. Это значит, что они приняты к рассмотрению и направлены правительству Беларуси для получения комментария. По 11 жалобам уже приняты решения, рекомендующие правительству Беларуси привести национальное законодательство в соответствие с международными обязательствами страны.

**Стратегическая тяжба**

Стратегическая тяжба - это последовательные юридические действия, в результате которых меняется или норма закона, нарушающая права граждан, или практика его применения. Так вкратце руководитель центра Леонид Судаленко объясняет суть дела, которым он занимается. Термин "стратегическая тяжба" давно используется в международной судебной практике и означает разбирательство, которое ведется с целью масштабных социальных изменений в стране.

*- Для этого, - говорит Судаленко, - очень важно уже на этапе составления протокола в милицейском участке заставить представителей правоохранительных органов руководствоваться не только внутренним белорусским законодательством, но и международными обязательствами страны.*

Если милиционеры, как правило, ссылаются только на Кодекс об административных правонарушениях, то правозащитники - на нормы Международного пакта о гражданских и политических правах, подписанного Беларусью. Возможностей искать защиту в международных организациях у белорусов не так много. Они, объясняет юрист, не могут жаловаться в Европейский суд по правам человека, так как страна не является членом Совета Европы и до сих пор не ратифицировала Европейскую конвенцию о правах человека.

Единственной международной структурой, куда белорусам имеет смысл обращаться за защитой, остается Комитет ООН по правам человека с офисом в Женеве. Как работает механизм стратегической тяжбы на практике, можно увидеть на примере дела гомельчанина Юрия Захаренко, которое как раз сейчас ведется центром.

**Дело «Захаренко против Беларуси»**

Тезка, однофамилец и дальний родственник экс-министра внутренних дел Беларуси Юрия Захаренко, пропавшего без вести в 1999 году, является активистом Белорусской социал-демократической партии (Народная грамада). В 2010 году он был доверенным лицом кандидата в президенты Николая Статкевича, позже лишенного свободы, как считают международные правозащитные организации, по политическим мотивам.

По взаимной договоренности с лидером партии именно Юрий Захаренко должен был нести фамильный герб рода Статкевичей на мирной акции протеста 19 декабря 2010 года, в день президентских выборов. Однако перед самым отъездом в Минск Захаренко был задержан сотрудниками спецслужб. Его обвинили в нецензурной брани, и суд Советского района Гомеля дал активисту 12 суток административного ареста.

Освободившись Захаренко первым делом подал жалобу на приговор в Гомельский областной суд. Но выяснилось, что белорусское законодательство отводит всего 10 дней для обжалования постановлений об административных арестах. Пребывание Юрия Захаренко за решеткой дольше этого срока судебные инстанции не сочли значимым, отказавшись рассматривать жалобу активиста. Тогда, пройдя формально все судебные инстанции внутри Беларуси, оппозиционер обратился в Комитет по правам человека ООН.

Юрий Захаренко признается, что не питает иллюзий относительно возможности пересмотра судебного решения. Суть его жалобы состоит не только в признании факта нарушения его прав на доступ к правосудию. Куда важнее, отмечает Захаренко, то, что в адрес белорусского правительства будут направлены предложения о приведении национального законодательства в соответствие с международными обязательствами страны в части сроков обжалования административных арестов.

**Скепсис нужно перебороть**

Успешные примеры ведения стратегических тяжб уже есть. Одним из прецедентов стало решение Комитета ООН по правам человека по жалобе главы гомельского объединения "Гражданские инициативы" Виктора Корнеенко, у которого во время президентской кампании 2001 года были конфискованы компьютеры. Согласно решению Комитета ООН по правам человека, белорусские власти должны не только вернуть технику, но и привести президентский декрет, регулирующий предоставление белорусам иностранной безвозмездной помощи, в соответствие с Международным пактом о гражданских и политических правах. Координатор программ Центра стратегической тяжбы Василий Поляков указывает, что правительство Беларуси считает решения Комитета ООН рекомендациями, не обязательными для исполнения. Поэтому компьютеры так и не были возвращены владельцу.

5 стр. >>>

## Гомельские правозащитники ввязались в стратегические тяжбы

Но государство вынуждено было дать свой комментарий на жалобу белорусов, а это уже создает почву для изменения ситуации в дальнейшем. Влияют решения Комитета ООН по правам человека и на настроения судей. Прецеденты являются аргументами во время новых судебных разбирательств.

Василий Поляков сетует на то, что белорусы не всегда готовы к длительной процедуре отстаивания своих прав. Но этот скепсис, уверен он, нужно перебороть, прежде всего, гражданским активистам, добивающимся изменений в стране. Для этого центр ведет образовательные программы, благодаря которым в 2012 году к его деятельности присоединились правозащитники Бреста, Гродно и Витебска.

**Показательная статистика**

До 2008 года, рассказывает Леонид Судаленко, в Комитет ООН по правам человека из Беларуси поступала всего одна жалоба в год. "Мы говорили, что права человека в стране нарушают, а у нас спрашивали, где же жалобы?" - вспоминает Судаленко. Именно тогда гомельские правозащитники поняли важность стратегических тяжб. В 2012 году Беларусь оказалась среди стран-лидеров по количеству жалоб, принятых к рассмотрению Комитетом ООН по правам человека.

Между тем власти не оставили активность правозащитников без внимания. В начале 2011 года спецслужбы конфисковали всю оргтехнику в офисе центра на улице Полесской, после чего провели обыски в квартирах и Судаленко, и Полякова. Тем не менее Центр стратегической тяжбы продолжил работу. "Морально мы готовы к репрессиям, ведь мы терпим за правду", - подчеркивают гомельские правозащитники.

## Судаленка: адмаўляючыся выконваць рашэньні Камітэту па правах чалавека, ўрад адмаўляецца прызнаваць канстытуцыйныя правы й свабоды грамадзянаў

*Амаль два дзясяткі гадоў прайшло з моманту як беларусы атрымалі права падаваць індывідуальныя скаргі ў Камітэт па правах чалавека, аднак беларускі ўрад да гэтага часу адмаўляецца выконваць рашэньні, якія прымаюцца ў ААН па скаргах беларускіх грамадзянаў. Сваім бачаньнем праблемы напярэдадні Дня Беларускай Канстытуцыі дзяліцца прафэсыйны юрыст, кіраўнік "Гомельскага Цэнтру стратэгічнае цяжбы", праваабаронца Леанід Судаленка.*

**Як часта беларусы скардзяцца ў ААН?**

Леанід Судаленка: На сёньняшні дзень Камітэт па правах чалавека зарэгістраваў каля 150 індывідуальных паведамленьняў беларускіх грамадзянаў, якія заявілі ў адпаведнасьці з артыкулам 61 Канстытуцыі аб парушэньні сваіх правоў і свабодаў. У дачыненьні да 43 зь іх устаноўлены факты парушэньня правоў, гарантаваных беларусам Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, нязначная частка справаў была спыненая ў сувязі з згубленымі кантактамі з аўтарамі, астатнія справы чакаюць сваёй чаргі на разгляд.

**Што адбываецца пасьля прыняцьця рашэньня?**

Леанід Судаленка: Камітэт па правах чалавека накіроўвае тэкст прынятага рашэньня непасрэдна самому аўтару і ўраду краіны, паказваючы, якія крокі павінен рабіць урад у дачыненьні да прынятага рашэньня. Рашэньне ўтрымлівае патрабаваньні індывідуальнага й агульнага характару. У якасьці выкананьня індывідуальных мер урад, напрыклад, абавязаны аднавіць аўтара ў правах, даць эфэктыўныя сродкі праўнай абароны, выплаціць кампэнсацыі, пакрыць аўтару панесеныя па справе выдаткі. Часта па крымінальных справах Камітэт па правах чалавека патрабуе вызваліць аўтара з-пад варты й правесьці новае судовае разьбіральніцтва. Мерамі агульнага характару могуць зьяўляцца патрабаваньні прыцягнуць вінаватых у парушэньнях асобаў да адказнасьці, неабходнасьць зьмены нацыянальнага заканадаўства, крокі па недапушчэньні аналягічных парушэньняў у будучыні. Урад абавязаны апублікаваць рашэньне на дзяржаўнай мове ў прэсе, а і на працягу шасьці месяцаў паведаміць аб прынятых мерах.

6 стр. >>>




**Як урад Беларусі рэагуе на рашэньні, што прымаюцца ў ААН?**

Леанід Судаленка: Да гэтага часу ні адно з прынятых Камітэтам па правах чалавека рашэньняў не выканана нашай краінай у добраахвотным парадку як у дачыненні да індывідуальных мер, гэтак і ў дачыненьні да мер агульнага характару. Прызнаныя ахвяры парушэньняў не атрымліваюць кампэнсацыяў, урад краіны не рэагуе на патрабаваньні аб неабходнасьці зьмены нацыянальнага заканадаўства, адмаўляецца публікаваць прынятыя ў дачыненьні да яе грамадзянаў рашэньні, а таксама ня робіць крокаў па недапушчэньні аналягічных парушэньняў у будучыні.

Афіцыйная перапіска па гэтым пытаньні зь дзяржаўнымі ворганамі паказвае, што беларускія чыноўнікі лічаць прынятыя ў ААН рашэньні як тыя, якія носяць рэкамэндацыйны характар. Адказваючы на адзін з запытаў аб неабходнасьці выкананьня прынятых на міжнародным роўні рашэньняў, першы намесьнік міністру замежных справаў адзначыў, што гэтыя рашэньні для чыноўнікаў носяць рэкамэндацыйны характар і не накладаюць на краіну абавязальніцтваў па іхным выкананьні.

**Так можа так яно й павінна быць, а скардзіцца беларусам ніхто ж не забараняе?**

Леанід Судаленка: У гэтай сувязі дарэчы ўспомніць адно з рашэньняў Канстытуцыйнага Суду Расейскай Фэдэрацыі, прынятае ў мінулым годзе па скарзе расейца Андрэя Харашэнкі. Вышэйшы судовы ворган краіны падкрэсьліў, што ніхто не вызваляе Расею ад добрасумленнага ды адказнага выкананьня прынятых Камітэтам па правах чалавека рашэньняў. «Іншае ня толькі ставіла б пад сумнеў выкананьне Расеяй добраахвотна прынятых на сябе міжнародных абавязальніцтваў, але й сьведчыла б аб невыкананьні абавязкаў прызнаваць і гарантаваць правы й свабоды чалавека ды грамадзяніна, а таксама рабіла бы безсэнсоўным права кожнага зьвяртацца ў Камітэт па правах чалавека», – так лічаць судзьдзі Канстытуцыйнага Суду нашага бліжэйшага саюзьніка.

Нашу краіну ніхто не вызваляў і нішто не вызваляе ад добрасумленнага ды адказнага выкананьня прынятых Камітэтам па правах чалавека рашэньняў. У адваротным выпадку робяцца безсэнсоўнымі правы, гарантаваныя кожнаму беларускаму грамадзяніну артыкулам 61 Канстытуцыі, у адпаведнасьці зь якой мы маем права абараняць свае правы й свабоды на міжнародным роўні. Адмаўляючыся выконваць рашэньні Камітэту па правах чалавека, ўрад адмаўляецца прызнаваць канстытуцыйныя правы й свабоды грамадзянаў.

У наступным годзе нашай Канстытуцыі спаўняецца два дзясяткі гадоў і мне як патрыёту сваёй краіны вельмі сумна канстатаваць той факт, што некаторыя канстытуцыйныя гарантыі прамога дзеяньня ў нашай краіне зьяўляюцца «соннымі». Калі грамадзянін на ўзроўні Асноўнага Закону надзелены правам на міжнародную абарону сваіх правоў, урад абавязаны распачаць усе неабходныя крокі, уключаючы крокі па распрацоўцы нутраных мэханізмаў, скіраваных на добрасумленнае й адказнае выкананьне прынятых Камітэтам па правах чалавека рашэньняў.

**А ці ёсьць у Беларусі спэцыяльнае для выкананьня такіх рашэньняў заканадаўства?**

Леанід Судаленка: Кожная краіна па-свойму выконвае рашэньні, якія прымаюцца на міжнародным роўні. Украіна прыняла адмысловы Закон, накіраваны на выкананьне рашэньняў міжнародных інстанцыяў, з прыходам новага ўраду аналягічны Закон быў распрацаваны і ў Кыргызстане. У Расеі выкананьне ажыцьцяўляецца праз працэсуальнае заканадаўства. Нашай краіне «вынаходзіць ровар» не патрабуецца, як гаварыцца было б жаданьне.

У артыкуле 8 Канстытуцыі нашай краіны замацаванае палажэньне, згодна зь якім Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права й забясьпечвае адпаведнасьць ім заканадаўства. Прызнаньне краінай прыярытэту агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права на практыцы павінна вызначаць разьвіцьцё ў гэтым напрамку ўсёй праўнай сыстэмы ў цэлым.

Міжнародныя дамовы падлягаюць добрасумленнаму выкананню Рэспублікай Беларусь у адпаведнасьці з міжнародным правам, так прапісана ў нацыянальным Законе аб міжнародных дамовах. Адной з ратыфікаваных міжнародных дамоваў нашай краіны зьяўляецца Факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, паводле якога Беларусь выступіла ў якасьці самастойнага боку міжнароднай дамовы й выказала згоду на абавязковасьць для яе нормаў Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Пры гэтым, Рэспубліка Беларусь, зьяўляючыся самастойным удзельнікам міжнароднай дамовы, у сілу Венскай Канвэнцыі аб праве міжнародных дамоваў ня можа спасылацца на палажэньні свайго нутранага права ў якасьці апраўданьня для невыкананьня заключанай дамовы.

**7 стр. >>>**



Як бачым, дастаткова ў працэсуальныя кодэксы ўнесьці дапаўненьні аб прыярытэце рашэньняў Камітэту па правах чалавека ААН над рашэньнямі нацыянальных судоў без прымяненьня тэрмінаў даўніны і ўсё, справа зрушыцца зь мёртвай кропкі. Наступным крокам можа быць і прыняцьце спэцыяльнага закону, аднак падкрэсьліваю, ўнясеньне дапаўненьняў ва ўжо дзейснае заканадаўства здольна паскорыць гэтыя крокі.

**Зьявілася інфармацыя аб стварэньні ў Беларусі з Вашым удзелам арганізацыі, якая будзе займацца праблемай невыкананьня рашэньняў Камітэту па правах чалавека.**

Леанід Судаленка: З кожным годам у Беларусі зьяўляецца ўсё больш і больш прызнаных Камітэтам па правах чалавека ахвяраў парушэньняў з боку дзяржавы грамадзянскіх і палітычных правоў. Напрыклад, наша арганізацыя выйшла на той ровень, калі за мінулы год Камітэт па правах чалавека прыняў 5 новых рашэньняў па скаргах жыхароў гомельскага рэгіёну, 9 новых паведамленьняў атрымалі рэгістрацыю й накіраваныя ўраду для камунікацыі.

**„ за мінулы год Камітэт па правах чалавека прыняў 5 новых рашэньняў па скаргах жыхароў гомельскага рэгіёну "**

Іншымі словамі, пытаньне аб выкананьні прынятых рашэньняў з кожным днём будзе гучаць усё гучней і гучней. У нас сапраўды нарадзілася ідэя стварыць рэспубліканскую арганізацыю, якая будзе займацца выключна пытаньнямі выкананьня на тэрыторыі Беларусі прынятых у Камітэце па правах чалавека рашэньняў. Мы бачым яе як пляцоўку, на якой будзе йсьці дыялог па гэтым пытаньні, у тым ліку і з урадам краіны. У склад арганізацыі мы прапануем ўвайсьці ўсім, хто атрымаў перамогу на міжнародным роўні, а так жа ўсім, хто піша ў Камітэт па правах чалавека скаргі й людзям, што падзяляюць гэтую пазыцыю.

У любой краіне аб'яднаньне людзей адбываецца там, дзе ўрад не заўважае праблемы, калі аб праблеме маўчаць, вядома, яна ніколі не ссунецца з мёртвай кропкі.

Паводле gomelspring.org,
Падрыхтаваў Алесь ЛЕТА

# У Гомелі заяўлены пазоў пра маральную шкоду

## ў сувязі з невыкананьнем рашэньня Камітэту ААН па правах чалавека

**Леанід Судаленка падаў у суд Цэнтральнага раёну Гомеля пазоў да казначэйства аб кампэнсацыі маральнае шкоды, якую ацэньвае заробкам дэпутата парлямэнту за чатыры гады паўнамоцтваў. Падставай да такога патрабаваньня паслужыла адмова чыноўнікаў выканаць рашэньне Камітэту па правах чалавека ААН, дзе устаноўлены шматлікія факты парушэньня ягоных правоў з боку дзяржавы.**

Нагадаем, падчас выбараў дэпутатаў так званага парлямэнту ў 2004 годзе праваабаронца сабраў неабходную колькасьць подпісаў выбаршчыкаў, тым ня менш, выбарчыя камісіі адмовіліся рэгістраваць ягоную кандыдатуру. І ў акруговай і ў Цэнтральнай выбарчай камісіі палічылі, што юрыст няправільна паказаў месца сваёй працы. Вярхоўны суд падтрымаў высновы выбаркамаў, пасьля чаго скарга не адбыўшагася народнага выбраньніка стала прадметам разгляду ў Камітэце па правах чалавека.

У 2010 годзе міжнародныя экспэрты прыйшлі да высновы, што ў дачыненьні да аўтара скаргі дапушчаныя парушэньні ягоных правоў прымаць удзел у вядзеньні дзяржаўных справаў шляхам абраньня на выбарах, а таксама засьведчылі ўжываньне да яго дыскрымінацыі па палітычных матывах. Камітэт абавязаў Беларусь даць аўтару эфэктыўны сродак праўнай абароны, уключаючы кампэнсаваньне, а таксама разглядаць любыя будучыя хадайніцтвы аб ягоным вылучэньні кандыдатам у дэпутаты пры поўным выкананьні палажэньняў Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Леанід Судаленка лічыць, што прыйшоў час патрабаваць ад дзяржавы выкананьня прымаемых на міжнародным роўні рашэньняў у дачыненьні да Беларусі, бо назапасілася дастатковая колькасьць рашэньняў Камітэту па правах чалавека ААН, у якіх вызначаюцца тыя ці іншыя парушэньні правоў беларускіх грамадзянаў, гарантаваных міжнароднымі абавязальніцтвамі краіны.

"На жаль, нашыя чыноўнікі гэтыя рашэньні лічаць неабавязковымі для выкананьня. Іншымі словамі, сёньня чыноўнікі дзейнічаюць па прынцыпе – правы нашай краіны на міжнародным узроўні забясьпечвайце, а вось адказнасьці краіна не будзем несьці аніякай", – канстатуе праваабаронца.

*"Судовая практыка пакуль не ведае прыкладаў падобных зыскаў, таму цяжка прадбачыць, як да яго паставіцца суд. У любым выпадку, рана ці позна ўсе гэтыя рашэньні ў дачыненьні да беларускіх грамадзянаў будуць выкананыя, таму сёння камусьці трэба пачынаць гэтую працу", – рэзюмаваў юрыст.*

# Суд адхіліў зыск праваабаронцы аб спагнаньні маральнай шкоды зь дзяржаўнай казны

*4 чэрвеня суд Цэнтральнага раёну Гомеля ў асобе судзьдзі Марыны Домненка разгледзеў грамадзянскую справу праваабаронцы Леаніда Судаленкі.*



Нагадаем, праваабаронца падаў зыск да казначэйства аб кампэнсацыі маральнае шкоды, якую ацэньвае заробкам дэпутата парлямэнту за чатыры гады паўнамоцтваў. Падставай да такога патрабаваньня паслужыла адмова беларускіх ўладаў выканаць рашэньне Камітэту па правах чалавека ААН, у якім установлены факты парушэньня правоў грамадзяніна з боку дзяржавы.

Падчас выбараў дэпутатаў парлямэнту ў 2004 годзе праваабаронца сабраў неабходную колькасьць подпісаў выбарнікаў, тым ня менш, выбарчыя камісыі адмовіліся рэгістраваць ягоную кандыдатуру. І ў акруговай, і ў Цэнтральнай выбарчай камісыі палічылі, што юрыст няправільна ўказаў месца працы. Камітэт ААН вырашыў, што правы грамадзяніна былі парушаныя дзяржавай, і беларускія ўлады павінны кампэнсаваць шкоду Леаніду Судаленку.

У якасьці суадказчыку па грамадзянскай справе суд прызначыў Цэнтральную выбарчую камісыю. Але прадстаўнікі ЦВК не пажадалі выступаць у судзе ў якасьці суадказчыка, прыслалі паведамленьне па факсе з просьбай разглядаць справу ў іхную адсутнасьць.

Прадстаўніком Міністэрства фінансаў у судзе быў Сяргей Захарчанка, які працуе ў казначэйстве. Выказваючы сваю пазыцыю аб тым, прызнае Міністэрства фінансаў зыск ці не, ён заявіў, што паводле Бюджэтнага кодэксу Міністэрства фінансаў плаціць кампэнсацыі маральнай шкоды толькі тым грамадзянам, у дачыненьні да якіх былі вынесеныя незаконныя прысуды па крымінальных справах. А па грамадзянскіх справах як быццам бы ў Бюджэтным кодэксе няма такога абавязку ў Міністэрства фінансаў, і таму прадстаўнік прасіў у зыску Леаніду Судаленку адмовіць.

«Мяне, як грамадзяніна, не хвалююць й не цікавяць тыя нормы нацыянальнага заканадаўства, па якіх мне адмаўляюць у зыску. У мяне на руках рашэньне міжнароднай арганізацыі, якую прызнае нашая краіна – Камітэта па правах чалавека ААН, дзе чорным па белым запісана, што РБ павінна мне сплаціць кампэнсацыю, і мяне не цікавіць, які менавіта дзяржаўны орган будзе яе сплочваць. Паводле Грамадзянскага кодэксу, такім дзяржаўным органам зьяўляецца Міністэрства фінансаў. А калі ў Міністэрства фінансаў няма мэханізмаў, каб выплаціць, то яны павінны крычаць ва ўвесь голас да дэпутатаў, каб тыя хутчэй прынялі зьмены ў Бюджэтны кодэкс, каб былі выпрацаваны такія мэханізмы выплаты маральнае шкоды», – адзначыў сваю пазыцыю праваабаронца.

**Паводле licviny.info**

## Гомель: па зыску праваабаронцы будзе адказваць ЦВК

*Судзьдзя суду Цэнтральнага раёну Марына Дамненка пры разглядзе зыска праваабаронцы Леаніда Судаленкі да дзяржказны прыцягнула ў якасьці суадказчыка Цэнтральную выбарчую камісыю. Цяпер старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай прыйдзецца шукаць адказ на пытаньне, чаму ў 2004 годзе яна разам з калегамі не змагла разабрацца ў месцы працы юрыста.*

*Нагадваем, суд Цэнтральнага раёну Гомеля прыняў да разгляду патрабаваньні праваабаронцы аб кампэнсацыі маральнай шкоды з нагоды невыкананьня рашэньня Камітэту па правах чалавека ААН, згодна зь якім установлены шматлікія факты парушэньня ягоных правоў з боку дзяржавы.*

*Падчас выбараў дэпутатаў так званага парлямэнту ў 2004 годзе праваабаронца сабраў неабходную колькасьць подпісаў выбарнікаў, тым ня менш, выбарчыя камісыі адмовіліся рэгістраваць ягоную кандыдатуру. І ў акруговай і ў Цэнтральнай выбарчых камісыях палічылі, што юрыст няправільна паказаў месца сваёй працы. Вярхоўны суд падтрымаў высновы выбаркамаў, пасьля чаго скарга не адбыўшагася народнага выбранніка стала прадметам разгляду ў Камітэце па правах чалавека.*

**Информационно-аналитический бюллетень Гомельского Центра стратегической тяжбы**

**“Стратегическая тяжба”**



**Редактор Алексей Коваль**

**а/я 28, 246003, Гомель. Тираж 299 экз.**

**Отпечатано на личном оборудовании.**

**Распространяется бесплатно.**